*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 28 (714)** **27 ЛІПЕНЯ 2005 г.**

## Найлепш ведаюць беларускую мову на Гарадзеншчыне

У Рэспубліканскім інстытуце кантролю ведаў ідзе ўсебаковы аналіз вынікаў прайшоўшага ў краіне дабраахвотнага, абавязковага і профільнага бюджэтнага цэнтралізаванага тэставання. Зноў, як і летась, самы высокі сярэдні бал па выніках абавязковага цэнтралізаванага тэставання па беларускай мове набралі выпускнікі Гарадзенскай вобласці - 44,48 (летась сярэдні бал па Гарадзенскай вобласці быў 47,93). Зусім нязначна ад Гарадзеншчыны адстала Меншчына - 44,44 (у 2004 г. - 47,89). Вынікі іншых рэгіёнаў размеркаваліся наступным чынам: г. Менск - 43,07 (у 2004 г. - 46,74), Віцебская вобласць - сярэдні бал 42,43 (у 2004 г. - 46,88), Берасцейская - 41,64 (у 2004 г. - 46,-9), Магілёўская - 38,61 (у 2004 г. - 42,7), Гомельская вобласць - 37,93 (у 2004 г. - 42,11).

***Паводле Н. Мікалаевай.***

Совместное белорусско-кипрское предприятие
общество с ограниченной ответственностью
**«МОБИЛЬНАЯ ЦИФРОВАЯ СВЯЗЬ»**

ул. Мельникайте, 14, 220004, г. Минск
Тел.: +375 17 217 84 94, факс +375 17 226 99 64
УНН 101528843, ОКПО 37522963
р/с 3012202410021 в ОАО «Приорбанк»
г. Минск, филиал 0115, код 172

07.07.2005 г. № 1-14/1072 пс

На ____________ от ____________

**VELCOM**
GSM

**Старшыні Грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы"**
**імя Францішка Скарыны**
**спадару Трусаву А.А.**
**вул. Румянцава. 13**
**220034 г. Мінск**

**Шаноўны Алег Анатолевіч!**

Ад імя сумеснага беларуска-кіпрскага таварыства з абмежаванай адказнасцю "Мабільная Лічбавая Сувязь" дазвольце падзякаваць Вам за шчырае віншаванне з нагоды прызначэння на пасаду генеральнага дырэктара кампаніі Мельнікава Г.В.

Узначальваемы новым кіраўніцтвам калектыў прафесіяналаў будзе і надалей прыкладаць усе намаганні дзеля таго, каб забяспечыць жыхароў нашай краіны якаснай мабільнай сувяззю. Мы плануем далейшае пашырэнне і ўдасканаленне сеткі VELCOM, увядзенне новых дадатковых паслуг і тарыфных планаў і інш.

У адказ на Вашы пажаданні адзначым, што беларуская мова ў дзейнасці прадпрыемства ўжываецца згодна з дзеючай рэдакцыяй Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". Прынамсі, перапіска з грамадзянамі і арганізацыямі вядзецца кампаніяй на адной з дзвюх дзяржаўных моваў: у залежнасці ад мовы звароту – рускай ці беларускай.

Акрамя таго, кліенты кампаніі маюць магчымасць без перашкод карыстацца ўсімі паслугамі мабільнай сувязі VELCOM, як на рускай, так і на беларускай мовах. Па жаданні кліента кансультацыя па паслугах сувязі можа быць дадзена спецыялістамі аддзела абслугоўвання па-беларуску. Больш за год таму разам з рускай і англійскай пачала дзейнічаць і беларуская версія афіцыйнага сайту кампаніі www.velcom. by.

Дазвольце яшчэ раз выказаць Вам удзячнасць за ўвагу да дзейнасці СП ТАА "МЛС". Спадзяемся на далейшае плённае супрацоўніцтва ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" і ягоных сяброў з кампаніяй VELCOM.

**З павагай,**
**Намеснік генеральнага дырэктара**
**па камерцыйным пытанням** **Р.С. Дашан.**

**DEUTSCHE WELLE**

Herrn Aleg Trusau
Rumjanzew-Boulevard 13
220005 Minsk

**Галоўны рэдактар перадач на замежных мовах**
**Міядраг Зорыч**
**Miodraq.soric@dw-world.de**

**Паважаны спадар Трусаў.**

Спадар Бетэрман папрасіў мяне адказаць на ваш ліст ад 27 чэрвеня.

У сваім лісце вы закранаеце тэму запланаванай радыёперадачы Deutsche Welle для Беларусі і выказваеце крытыку таго, што яна будзе выходзіць па-расейску. Я не магу аднесці гэтую крытыку на свой адрас.

Хаця вы нас гэтым папракаеце, Deutsche Welle ні ў якім разе не будзе пагарджаць беларускай мовай. Мы таксама не лічым, што Беларусь – гэта частка Расеі. Deutsche Welle з вялікай ахвотай вяшчала б на беларускай мове, але для гэтага ў нас бракуе фінансавання.

На наш погляд, найбольш важна тое, што ўвогуле з'яўляецца нейкая праграма пра Беларусь і для Беларусі. Я перакананы, што наша праграма знойдзе ў Беларусі зацікаўленых слухачоў і слухачак, незалежна ад яе мовы.

**З павагай** (подпіс).

# Лідчына не забывае паўстанне 1863 года



24 ліпеня на Лідчыне ў 11 раз праходзілі штогадовыя мерапрыемствы па ўшанаванні памяці паўстанцаў 1863 года. У 14.00 на полі бою паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы пад лёгкім летнім дожджыкам пачалася святая імша за палеглых. Імшу адпраўляў ксёндз Сяргей з горада Савецка Калінінградскай вобласці Расіі. Імша ішла на беларускай мове з фрагментамі па-польску і па-лацінску. Духоўныя беларускія песні касцельнага хору з Ліды суправаджалі малітвы.



Дожджык перастаў, і настрой прысутных, які і так быў узнёсла-ўрачысты, стаў яшчэ лепшым. На імшу сабралася каля 50 чалавек з Ліды, Бярозаўкі, Белагруды, Малога Ольжава, Мохавіч. Мерапрыемства ладзілася лідскімі арганізацыямі ТБМ і ішло пад сцягам ТБМ.



У той жа дзень прайшлі і іншыя традыцыйныя для Ліды мерапрыемствы. Былі ўскладзены кветкі да магілы ксендза Адама Фалькоўскага ў гарадскім парку, расстралянага ў Лідзе за абвяшчэнне маніфеста паўстання, а таксама да магілы ўдзельніцы паўстання Валерыі Цехановіч на старых каталіцкіх могілках.

Абедзве магілы дагледжаныя, але калі на магіле Валерыі Цехановіч стаіць помнік, то на магіле ксендза Адама Фалькоўскага помніка дагэтуль няма. Хоць фармальная згода гарадскіх уладаў на ўстаноўку памятнага знака на магіле А. Фалькоўскага ёсць, адкак справа зацягваецца. Памятны знак да 24 чэрвеня, угодкаў смерці А. Фалькоўскага паставіць не ўдалося, магчыма гэта ўдасца зрабіць пад "Дзяды".

***Яраслаў Грынкевіч.***

**На здымках:** 1. Падчас імшы паміж М. Ольжавам і Мохавічамі. 2. Ускладанне кветак да магілы ксендза Адама Фалькоўскага ў Лідзе. 3. Ускладанне кветак да магілы Валерыі Цехановіч у Лідзе.



# Наша мова

## Катэхізіс навукі аб беларускай мове

*Культурна-асветны клуб "Спадчына" прыступае да чарговай вялікай працы. Сябры "Спадчыны" вырашылі ў пытаннях і адказах распавесці пра беларускую мову. Яны сфармавалі пералік пытанняў, на якія трэба даць адказ у будучай працы, і звяртаюцца да ўсіх беларусістаў, беларусазнаўцаў, гісторыкаў, філолагаў, беларусаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў у нашай краіне і ва ўсім свеце ўнесці свой уклад да стварэння Катэхізісу навукі аб беларускай мове. Сябры "Спадчыны" просяць дасылаць ці перадаваць адказы на пастаўленыя пытанні на адрас клуба "Спадчыны" або адрас "Нашага слова". Створанае поле пытанняў не з'яўляецца закончаным. Кожны можа паставіць і сваё пытанне ды даць на яго адказ.*

*Старшыня клуба "Спадчына" Анатоль Белы..*

### I. Гістарычны аддзел

1. Як называе Герадот людзей, якія жылі ў V стагоддзі да н. э. у межах сучаснай Беларусі?
2. Што пісаў славянскі філолаг П. І. Шафарык аб мовах славян, якія рассяліліся па Еўропе з тэрыторыі сучаснай Беларусі?
3. Як называў імператар Канстанцін народы, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў IX ст.
4. На якой аснове была распрацавана пісьмовая мова Кірыла і Мефодзія ў IX ст?
5. Калі на Беларусі з'явілася пісьменнасць?
6. Ці існавала адзіная старажытнаруская дзяржава і адзіная мова на тэрыторыі Кіеўскай Русі?
7. Якая мова першых асветнікаў Беларусі?
8. Як ставіліся апосталы хрысціянскай веры да набажэнства на роднай мове?
9. Як цяпер ставяцца розныя канфесіі хрысціянскай веры да набажэнства на роднай мове?
10. Як фармавалася канцылярская мова на Беларусі ў XIV-XVI ст. ст.?
11. Чаму старабеларуская мова з'яўлялася дзяржаўнай пры дварах Вялікіх князёў Літоўскіх?
12. Якой мовай карыстаўся кароль Польшчы Уладзіслаў II (Ягайла)?
13. У якім афіцыйным дакуменце, напісаным на лацінскай мове, упершыню ужываецца беларускае слова "пагоня"?
14. На якой мове напісаны Статуты Вялікага Княства Літоўскага?
15. На якой мове напісаны Лаўрышаўскае і Друцкае Евангеллі?
16. На якой мове Францішак Скарына выдаў Біблію?
17. Чаму старабеларуская мова называлася рускай?
18. Як разумець такія выразы Ф. Скарыны: "прiложил есм працу выложити книгу сию на рускый язык" і «абы братия моя Русь, люди посполитые, чтучы могли лепей разумети»?
19. Як разумець такі выраз Францішка Скарыны: «повелел есм Псалтырю тиснути рускыми словами а словенским языком...»?
20. Які верш і якога аўтара прысвячаўся ўслаўленню старабеларускай мовы?
21. Чаму старабеларуская мова атрымала росквіт ў XV-XVI ст. ст.? Чаму даследчыкі называюць гэтыя стагоддзі «залатым векам» у гісторыі Беларускай дзяржавы?
22. Што пісаў аб беларускай мове Васіль Цяпінскі?
23. Што пісаў аб беларускай мове Сымон Будны?
24. Як ставіўся да роднай мовы канцлер Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага Леў Сапега?
25. На якой мове даваліся імёны і прозвішчы князям Вялікага Княства Літоўскага?
26. Як ў сярэдневеччы называліся жыхары Маскоўскага княства?
27. Калі і кім было афіцыйна ўведзена паняцце "Русская держава" і "Российская империя"?
28. Прычыны заняпаду беларускай мовы ў канцы XVII ст.?
29. Калі і чаму за польскай мовай на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага быў замацаваны статус дзяржаўнай?
30. Этнічныя межы старабеларускай дзяржавы?
31. Якія насельнікі жылі ў старажытнай Вільні, як раней называўся гэты горад?
32. Якая мова была сродкам дыпламатычных дачыненняў ва Ўсходняй Еўропе ў XV-XVI ст. ст.?
33. Якія навучальныя ўстановы існавалі на Беларусі ў сярэдневеччы?
34. Як ставіліся праваслаўныя брацтвы да старабеларускай мовы?
35. Чаму Масква "акае", а ўсё яе наваколле "окае"?
36. Хто стварыў літары, якімі мы сёння карыстаемся?
37. Якое месца займае беларуская мова ў дзейнасці ўніяцкай царквы?
38. Якая ўніяцкая літаратура выйшла на беларускай мове?
39. Калі ўзніклі назвы "ліцвін", "русін", "беларусец"?
40. Як беларусы называлі сваю мову ў розныя часы сярэднявечча?
41. Лёс беларускай мовы пасля далучэння краю да Расіі?
42. Чаму ў палітыцы русіфікацыі асноўны ўдар наносіўся па беларускай мове?
43. Першы літаратурны твор першай паловы XIX ст. на беларускай мове?
44. На якой мове выдавалася першая падпольная газета на Беларусі?
45. На якой мове выдаваўся ў Пецярбургу часопіс "Гоман"?
46. Якім алфавітам карысталіся першыя беларускія газеты?
47. Што казаў наш зямляк Адам Міцкевіч пра беларускую мову?
48. Асноўная праца Івана Насовіча пра беларускую мову?
49. Асноўная праца Яўхіма Карскага пра беларускую мову?
50. Якую ролю адыгралі дзеячы "Маладой Беларусі" ў развіцці сучаснай беларускай мовы?
51. Каму належыць заклік: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" і ў чым яго актуальнасць для дзеячоў "Маладой Беларусі"?
52. Хто з беларускіх святароў першым выкарыстаў беларускую мову ў набажэнстве?
53. Хто актыўна выступаў за беларускую мову ў час "нашаніўскага кругабегу"?
54. Адносіны да беларускай мовы ў дабээсэсэраўскі перыяд?
55. Стаўленне ўладаў БНР да беларускай мовы?
56. Месца беларускай мовы ў палітыцы беларусізацыі?
57. Чаму бальшавікам патрэбна было рэфармаваць беларускую мову?
58. Якую палітыку ў пытаннях беларускай мовы праводзіў у міжваенны перыяд польскі ўрад?
59. Адносіны да мовы ў сяброў "Таварыства беларускай школы"?
60. Якія навуковыя і навукова-папулярныя працы выйшлі на беларускай мове ў міжваеннай Вільні?
61. Ці меў Францішак Багушэвіч надзейных прадаўжальнікаў у барацьбе за беларускую мову?
62. Хто першым на пачатку XX ст. карыстаўся беларускай мовай?
63. Вершы Янкі Купалы ў абарону беларускай мовы?
64. Выказванні Цёткі аб беларускай мове?
65. Фабіян Шантыр аб беларускай мове?
66. Язэп Лёсік аб беларускай мове?
67. Аляксандр Цвікевіч аб беларускай мове?
68. Вершы Алеся Гаруна ў абарону беларускай мовы?
69. Вацлаў Ластоўскі аб беларускай мове?
70. Вершы Гальяша Леўчыка ў абарону беларускай мовы?
71. Першыя граматыкі беларускай мовы?
72. Першыя беларускамоўныя падручнікі і дапаможнікі для дзяцей?
73. Першыя кнігі па гісторыі Беларусі на роднай мове?
74. Першыя руска-беларускія і беларуска-рускія слоўнікі?
75. Якія беларускія газеты і часопісы выдаваліся пры урадзе БНР?
76. Першыя бальшавіцкія газеты на беларускай мове?
77. Якія рэспубліканскія беларускія газеты выдаваліся ў БССР у міжваенны перыяд?
78. Якія беларускія газеты выдаваліся ў Заходняй Беларусі?
79. Якія беларускія газеты і часопісы выдаваліся з дазволу нямецкай адміністрацыі ў перыяд Другой сусветнай вайны?
80. Якія беларускія газеты і часопісы выдаваліся ў асяроддзі беларускай дыяспары?
81. Якую ролю адыгрывае беларуская мова ў асяроддзі беларускай дыяспары?
82. Дзе ў свеце існуюць беларускія моўныя асяродкі?
83. Універсітэты краін Еўропы і Амерыкі, дзе вывучаюць беларускую мову?
84. Якое месца займае беларуская мова ў праваслаўным набажэнстве на Беларусі?
85. Якое месца займае беларуская мова ў каталіцкім набажэнстве на Беларусі?

### II. Тэарэтычныя пытанні.

1. Ці існаваў генацыд беларускай мовы ў першыя гады пасля кастрычніцкага перавароту 1917 года?
2. Ацэнка Н. Хрушчовым стану беларускай мовы на рубяжы 50-60 гг. XX ст.?
3. У чым сутнасць білінгвізму ці двухмоўя на Беларусі ў "дагарбачоўскі" перыяд?
4. Якія нацыянальна-патрыятычныя рухі ініцыявалі прыняццё закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь?
5. Калі і чаму створана Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны?
6. Ці ёсць барацьба за мову палітычнай акцыяй?
7. Чаму мову называюць душой народа?
8. Чаму мова з'яўляецца адным з асноўных элементаў культуры?
9. Чаму мова з'яўляецца адным з элементаў фармавання нацыянальнай свядомасці?
10. Асноўныя фанетычныя і марфалагічныя адрозненні паміж беларускай і рускай мовамі?
11. Як уплывае суверынітэт і дзяржаўнасць на стан мовы?
12. Ці ўплывае моўная трываласць народа на яго сувэрынітэт?
13. Ці можна быць патрыётам без ведання роднай мовы?
14. Чаму ўсе ворагі беларушчыны вялі зацятую барацьбу супраць нашай мовы?
15. Як адбыўся рэферэндум 1995 г. на стане беларускай і рускай моваў ў краіне?
16. Чаму пасля наданьня бацькам права вызначаць мову навучання ў агульнаадукацыйных школах, вялікія страты панесла беларуская мова?
17. Чаму страта мовы вядзе да асіміляцыі і поўнага знікнення этнасу?
18. Як трэба клапаціцца аб чысціні мовы, выступаць супраць неабдуманага засмечвання яе рысамі чужой мовы?
19. Чаму дзяржава павінна клапаціцца аб сваёй дзяржаўнай мове?
20. Чаму мову называюць візітнай карткай дзяржавы ў Сусвеце?
21. Месца рускай мовы ў жыцці беларускага народа?
22. Ці існуе на Беларусі роўнасць моваў?
23. Асноўныя хібы беларускага маўлення на сучасным этапе?
24. Якія марфалагічныя змяненні ўнесла рэформа беларускай мовы 1933 года?
25. Навуковыя працы па беларускай мове нашых эмігрантаў?
26. Хто з нямецкіх вучоных у гады Першай сусветнай вайны займаўся даследваннямі беларускай мовы?
27. Калі і колькі раз беларуская мова абвяшчалася дзяржаўнай?
28. Уклад інтэлектуальных сіл беларускай зямлі ў фармаванне моў народаў-суседзяў?
29. Якія творы беларускіх аўтараў напісаны лацінкай?
30. Беларускі перыядычны друк на лацінскім алфавіце ў канцы XIX-пачатку XX ст.ст.?
31. Якія беларуска-рускія і руска-беларускія слоўнікі выйшлі ў міжваенны і пасляваенны перыяды?

### III. Мова і праблемы адукацыі.

1. Чаму вядучыя педагогі свету рэкамендуюць пачынаць школьную адукацыю на роднай мове?
2. З якога класа і з якога ўзросту вучоныя рэкамендуюць вывучаць іншыя мовы?
3. Шкоднасць білінгвізму ў працэсе навучання?
4. Чаму бацькі не імкнуцца аддаваць сваіх дзяцей у беларускія класы?
5. Чаму лепшыя вынікі навучання атрымліваюцца на роднай, чым на блізкай да яе мовах?
6. Чаму ў большасці сваёй масы беларускі народ не жадае пераходзіць на родную мову?
7. Хто з дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12 склікання карыстаўся і адстойваў беларускую мову?
8. Хто з дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13 склікання карыстаўся і адстойваў беларускую мову?
9. Як паўплывала на развіццё беларускай мовы рэформа яе правапісу ў 1933 годзе?
10. Як да рэформы беларускага правапісу паставіліся нашыя супляменнікі ў Заходняй Беларусі і ў эміграцыі? А як на Беларусі?
11. Ці патрабуе Закон аб мовах, каб усё насельніцтва Беларусі адразу загаварыла па-беларуску?
12. Ці адбывалася з прыняццём Закона аб мовах прымусовае ўкараненне беларускай мовы?
13. Чаму пастаянна звужаецца прастора ўжывання беларускай мовы?
14. Колькі працэнтаў беларусаў і грамадзян нашай краіны іншых нацыянальнасцяў паводле перапісу насельніцтва Беларусі 1999 г. прызналі беларускую мову роднай, колькі карыстаецца ёй дома?
15. Колькі рускіх па нацыянальнасці грамадзян нашай краіны прызналі падчас перапісу насельніцтва 1999 г. года беларускую мову за родную, колькі рускіх карыстаецца ёй дома?
16. Колькі грамадзян нашай краіны іншых нацыянальнасцяў прызналі падчас перапісу насельніцтва 1999 года беларускую мову за родную і размаўляюць на ёй дома?

# Страты нацыянальнага адраджэння ў канцы XX—пачатку XXI стст.

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

## Дзеячы культуры

Авяр'янаў Юры (16.06.1952 — 30(?).12.1995), славуты акцёр.
Адамовіч Антон (1909 — 1998), гісторык, журналіст.
Азгур Заір (02(15).01.1908 — 18.02.1995), скульптар, народны мастак СССР.
Алоўнікаў Уладзімер (16.01.1919 — 31.07. 1996), кампазітар, народны артыст Беларусі.
Анікейчык Анатоль (11.07.1932 — 03.02. 1989), народны мастак Беларусі.
Бембель Андрэй (17(30).10.1905 — 13.10. 1986), скульптар, народны мастак Беларусі.
Вагнер Генрых (02.07.1922 — 15.07.2000), кампазітар, народны артыст Беларусі.
Вакар Сяргей (1928 — 1998), скульптар.
Вуячыч Віктар (11.07.1934 — 17.09.1999), спявак, народны артыст Беларусі.
Гарэлік Леў (16.02.1929 — 1996), скрыпач, народны артыст Беларусі.
Голуб Леў (29.09.1904 — 1994), кінарэжысёр, народны артыст Беларусі.
Глебаў Яўген (10.09.1929 — 21.01.2000), кампазітар, народны артыст СССР.
Ждановіч Ірына (14(27).09.1906 — 03.12. 1994), народная артыстка Беларусі.
Заборскі Георгі (29.10(11.11).1909 — 27.03. 1999), народны архітэктар СССР.
Зайцаў Яўген [21.12.1907(03.01.1908) — 13.09.1992], народны мастак Беларусі.
Ісачоў Аляксандр (1954 — 1987), славуты мастак з г. Рэчыцы.
Канапелька Зінаіда (25.12.1918 — 1997) актрыса, народная артыстка Беларусі.
Кішчанка Аляксандар (13.05.1933 — 11.11. 1997), жывапісец, народны мастак Беларусі.
Конюх Пётра (08.03.1910 — 14.07.1994), славуты спявак.
Кроль Абрам (01.05.1913 — 1990), жывапісец.
Лапчынскі Леанід (1936 — 1994), мастак.
Ляляўскі Анатоль (06.03.1923 — 07.01.1995), народны артыст Беларусі.
Макарава Галіна (27.12.1919 — 28.09.1993), народная артыстка Беларусі.
Міцкевіч Даніла (1914 — 1996), сын Якуба Коласа, заслужаны дзеяч культуры Беларусі.
Паслядовіч Аляксандар (23.04.1918 — 1988), графік, залужаны дзеяч мастацтваў Беларусі.
Пола Вера [25.01(07.02).1901 — 15.10.1989], народная артыстка Беларусі.
Пятрэнка Мікалай (1919 — 1997), полацкі кампазітар.
Рыжкова Ганна (1925 — 1993), спявачка эстрады, заслужаная артыстка Беларусі.
Сакалоў-Кубай Генадзь (1942 — 1998), мастак.
Селяшчук Мікола (04.08.1947 — 25.09. 1996), мастак.
Семяняка Юры (25.11.1925 — 16.07.1990), кампазітар, народны артыст Беларусі.
Скабло Барыс (13.04.1923 — 1999), віяланчаліст, заслужаны артыст Беларусі.
Станюта Стафанія [30.04(13.05). — 06.11. 2000], народная атрыстка СССР.
Стома Здзіслаў [04(17).08.1907 — 21.07. 1992], народны артыст СССР.
Ступакоў Юры (24.03.1934 — 1999), акцёр, народны артыст Беларусі.
Трухан Мікола (18.08.1947 — 20.03.1999), рэжысёр драматычнага тэатра "Дзе — я?".
Тураў Віктар (25.10.1936 — 31.10.1996), кінарэжысёр, народны артыст СССР і Беларусі.
Цітовіч Генадзь (25.07(07.08).1910 — 21.06. 1986), харавы дырыжор, кампазітар, народны артыст СССР.
Ціхановіч Генрых 28.05.1937 — 29.12.2000), мастак.
Ціхановіч Ян (1975 — 2000), мастак.
Шкляраў Фёдар (1925 — 1988), краязнавец, заснавальнік Веткаўскага дзяржаўнага музея народнай творчасці, заслужаны работнік культуры Беларусі.
Янкоўская Валянціна (1954 — 2000), мастачка.
Яроменка Мікалай (17.06.1926 — 30.06. 2000), акцёр, народны артыст СССР і Беларусі.

## Грамадскія, партыйныя і дзяржаўныя дзеячы

Адамовіч Антон (1909 — 1998), журналіст, гісторык, аўтар кнігі "Супраціўленне саветызацыі ў беларускай літаратуры" (1956).
Арэхва Мікалай (24.11.1902 — 16.17.1990), дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.
Барташэвіч Генадзь Георгіеў (12.09.1934 — 08.09.1993), другі сакратар ЦК КПБ (1983—1987 гг.), дыпламат.
Зімянін Міхаіл Васілёў (1914 — 1995), сакратар ЦК КПСС (1976—1987 гг.), галоўны рэдактар газеты "Праўда" (1965—1966 гг.).
Калубовіч (Каханоўскі) Аўген (05.03.1912 — 25.051987), гісторык, палітычны дзеяч эміграцыі.
Клімаў Іван Фролаў (10.09.1903 — 09.10. 1991), кіраўнік камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Менскай і Вілейскай абласцях).
Карніловіч Сяргей (14.11.1929 — 29.10.1993), грамадскі дзеяч у эміграцыі.
Клімовіч Рыгор (1924 — 01.07.2000), кіраўнік паўстання вязняў у Нарыльску ў 1953 г.
Кляцкоў Леанід Герасімаў (12.05.1918 — 1997), першы сакратар Гарадзенскага абкама КПСС (з 1972 г.).
Майсеня Анатоль (04.01.1959 — 12.11 1996), журналіст, палітолаг, прэзідэнт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў "Усход—Захад".
Майскі Аляксандр (192? — 1997), журналіст, спартыўны каментатар.
Матусевіч Ян (1948 — 02.09.1997), ксёндз, дэкан Беларускай грэка-каталіцкай царквы.
Мартынаў Аляксей (07(20).08.1904 — 15.11.1999), краязнаўца, ганаровы грамадзянін г. Кобрына.
Мікуліч Уладзімір Андрэеў (14.10.1920 — 17.01.2000), першы сакратар Менскага абкама КПСС (з 1977 г.).
Міхневіч Юры (18.12.1925 — 16.03.1998), міністар культуры БССР (9171—1988 гг.).
Полазаў Мікалай (10.03.1923 — 25.01.1994), партыйны і прафсаюзны дзеяч Беларусі, старшыня Белсаўпрафа (1970—1986 гг.).
Рыжанкоў Уладзімір (11.09.1945 — 12.12.- 1996), першы прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэту Беларусі, міністр спорту і турызму Рэспублікі Беларусь.
Савіцкая Ядвіга [22.08(03.09).1908 — 09.08.1995], журналістка, рэдактар падпольнай газеты "Звязда", якая выдавалася ў Менску ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

## На пачатку XXI ст. пакінулі гэты свет:

### Літаратары

Адамчык Вячаслаў (01.11.1933 — 04.08.- 2001).
Асташонак Алесь (01.06.1954 -- 07.09.2004).
Быкаў Васіль (19.06.1924 — 22.06.2003).
Вольскі Артур (сапраўднае Вольскі-Зэйдаль Артур Віталевіч, 23.09.1924 — 05.09.2002).
Грахоўскі Сяргей (12(25).09.1913 — 11.12. 2002).
Дзяржынскі Авяр'ян (10.06.1919 — 2002).
Дуброўскі Ігнат (сапраўднае Чарняўскі, 1906— 2003).
Жамойцін Янка (28.01.1922 — 25.04.2002).
Канапелька Анатоль (16.11.1939 — 16.12. 2002).
Карповіч Янка (1935 — 08.01.2002).
Кудраўцоў Анатоль (01.01.1947 — 24.03. 2002).
Кузьмянкоў Уладзімір (27.06.1936 — 29.01.- 2002).
Клімковіч Святлана (1935 — 2001).
Лужанін Максім (сапраўдане Каратай Аляксандр Амвросевіч, 02.11.1909 — 13.10.- 2001).
Матукоўскі Мікалай (12.09.1929 — 22.09. 2001).
Майсейчык Аляксей (04.10.1936 — 12.05. 2002).
Махнач Алесь (27.08.1922 — жнівень 2001).
Пісьмянкоў Алесь (25.02.1957 — 23.04.2004).
Пяровіч Самсон (1923 — 14.12.2001).
Сыс Анатоль (26.10.1959 -- 04.05.2005).
Сяднёў Масей (01.09.1913 — 04.02.2001).
Трацякоў Мікалай (12.01.1947 — 18.01.2003).
Траяноўскі Алесь (30.09.1925 — 18.03.2005).
Тулупава Нэла (01.02.1938 — 2001).
Шамякін Іван (30.01.1921 — 14.10.2004).
Шаблоўская Ірына (12.12.1939 — 2004).
Шэрман Карлас (25.07.1929 — 20.02.2005).

### Вучоныя

Антанюк Віталь Сцяпанаў (10.10.1939 — 06.05.2002), прэзідэнт Акадэміі аграрных навук (з 1992 г.), біёлаг, заолаг.
Аржахоўскі Ігар Вацлаваў (11.05.1933 — 29.04.2002), гісторык.
Анічэнка Уладзімір Васільеў (1924 — 2001), філолаг.
Барысаў Уладзімір Аляксандраў (12.04. 1940 — 16.11.2001), хімік, тэхнолаг, адзін з заснавальнікаў беларускай школы кансервацыі драўляных помнікаў архітэктуры.
Баханькоў Арцём Яўхімаў (29.01.1924 — 12.08.2001), мовазнаўца.
Ігнаценка Іларыён Мяфодзеў (28.12.1919 — 03.02.2002), гісторык, акадэмік.
Лядаховіч - Тамілін Рамаш Янаў (08.10.1925 — 16.09.2001), кандыдат тэхналагічных навук, аўтар некалькіх беларускіх слоўнікаў па тэхнічных навуках.
Малажай Галіна Мікалаева (15.03.1938 -- 14.05.2005), мовазнаўца, аўтар слоўніка "Беларуская перыфраза", чл.- кар. Беларускай акадэміі адукацыі.
Міхнюк Уладзімір Мікалаеў (27.09.1947 — 13.10.2004), гісторык.
Мельнікаў Барыс Сямёнаў (30.04.1937 — травень 2003), інжынер, энцыклапедыст.
Платонаў Расціслаў Пятроў (15.04.1930 — 24.02.2004).
Побаль Леанід Давыдаў (28.05.1924 — 27.01.2003), гісторык, археолаг.
Протчанка Васіль Ульянаў (07.04.1930 — 2002), філолаг, педагог.
Фядосік Анатоль Сямёнаў (07.02.1925 -- 06.02.2005), фалькларыст, аўтар некалькіх кніг.
Цішчанка Іван Кірылаў (22.05.1930 — 24.02.2001), фалькларыст.
Юхо Язэп (Іосіф) Аляксандраў (19.03.1921— 29.07.2004), юрыст.

*(Заканчэнне ў наст. нумары.)*

# Залатыя, жніўныя каласы

***Ой, вы родныя, спелыя нівы***
***Хто вам цвёрдую глебу узняў***
***Мне прыпомніўся вобраз Скарыны***
***З поўнай жменяй жамчужын зярнят.***

Народная прыказка кажа: ***"Хто ў жніўні гуляе, той у зімку галадае"***. Самая адказная пара беларускага селяніна жніво.

Звіняць сярпочкі сталёвыя.

Перажагнаўшыя перад абразом, апрануўшыся ў святочнае адзенне ішлі жнічкі на зажыначкі, каб затым справіць і дажыначкі. Ля жніўнога поля жанчыны-жнеі у малітве прасілі Бога, аб добрай пагодзе і каб даў здароўя для вялікай працы:

***На дабрынец, на шырокае поле***
***На здароўе, жанцы маладыя:***
***Сярпочкі сталяныя!***
***Дай Божа пагодачку,***
***Каб пачаць зажыначкі***
***І скончыць дажыначкі:***

Зжаўшы па першай жмені жыта жнеі складалі ў адзін снапок, упрыгожвалі яго стужачкамі, кветкамі, ставілі на зямлю і спяваючы вадзілі карагод:

***Досыць, досыць ядраному жыту***
***Ў полі стаяць,***
***Пара, пара ядраному жыту***
***Снапамі на полі стаяць.***
***Пара пара ядронаму жыту***
***Ў дзяжэ падыходам,***
***Пара, пара ядраному жыту***
***Ў пячы падрастаці.***

Зжаўшы ўсё жытнёвая поле, жанцы пакідалі некалькі недажатых каласоў "бараду", у іншых месцах Беларусі гэта называлі "раёк", "куст", клалі ля яго кавалачкі хлеба, цукеркі, каб і наступны год быў добры ўраджай, прыгаворваючы:

***Дзякуи Богу за цёплае лета,***
***За буйнае жыта,***
***Што мы поле пажалі і ўсё паскладалі,***
***Каб здаровы спажывалі.***



*Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Якаў Навуменка, танцмайстар Мікола Котаў і каза Маша. "Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць."*

Надвячоркам пасля працы неслі апошні сноп па ўсёй вёсцы, падкідаючы яго ўгору спяваючы песні. Ля хаты гаспадара вадзілі спеўныя карагоды у цэнтры якога стаяў сам пан-гаспадар са снапом. Ён дзякаваў жнеі за добрую працу, частаваў іх квасам, рознымі прысмакамі. Гучала вельмі ёмкае, прыгожае слова: "Хто жне і косіць, той есці не просіць". "Колас, да колаcа сноп будзе, зернята да зерняткі бохан будзе". "Хто хлеб з сабою носіць, той есці не просіць". "Самая мілагучная музыка, шэпат спелых каласоў". "Жнівень сее, жне і косіць, на сталах багацця досыць". "Нізка зямлі кланяйся". А мы, кланяемся вам людзі, чыя праца заўсёды ў пашане.

*Мікола Котаў, фалькларыст.*


**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

***Рэдакцыйная калегія:***
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 25. 07. 2005 г. у 11.30. Замова № 1222.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.